Тэлепраграма з 14 па 20 жніўня

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 63 (4212)**

11 жніўня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*«Народная Воля»*
в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

ЧУЛІ?

## Прэм'еру фільма «Жоўты пясочак» паводле твора Быкава пра расстрэлы ў Курапатах запланавалі на верасень




Кінарэжысёр Аляксей Туровіч атрымаў класіфікацыйнае пасведчанне на пракат мастацкага фільма па апавяданні Васіля Быкава «Жоўты пясочак». Падпісана пагадненне з «Кінавідэапракатам», прэм'ерны паказ прызначаны на сярэдзіну верасня ў мінскім кінатэатры «Масква».

ЖНІВО–2017

## Амаль палова збожжавых абмалочана!

Чатырохмільённая тона зерня на падыходзе. На ўчарашні дзень збожжавыя былі абмалочаны амаль на палове плошчаў.

Задаволены беларускія аграрыі і ўраджайнасцю! Яна вышэйшая, чым была ў мінулым годзе, – з кожнага гектара ў сярэднім выходзіць па 35,8 цэнтнера.

На рэкорд ідуць хлебаробы Гродзеншчыны. У іх намалоты на круг складаюць 44,3 цэнтнера – на чатыры з лішнім цэнтнеры больш, чым у 2016 годзе.

Пакуль аднолькавая ўраджайнасць у Брэсцкай і Гродзенскай абласцях – у сярэднім з кожнага гектара намалочваюць па 37,2 цэнтнера.

Калі паспрыяе надвор'е, то вынікі жніва беларусаў парадуюць. Ёсць спадзяванні, што валавы збор зерня дасягне васьмімільённай тоны. А яшчэ ж будзе кукурузнае зерне!

**Валянціна КАЗЛОЎСКАЯ.**




Камбайнер з Гродзеншчыны Алег Бандарэвіч першым у вобласці намалаціў 2 тысячы тон зерня.

РОЗГАЛАС

## Міжнародныя прафцэнтры патрабуюць...

Кіраўнікі дзвюх міжнародных прафсаюзных структур звярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі з лістом, у якім патрабуюць спыніць крымінальны пераслед і «*зняць усе беспадстаўныя абвінавачанні*» са старшыні незалежнага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) Генадзя Фядыніча і бухгалтара прафсаюза Ігара Комліка.

Ліст падпісаны генеральнымі сакратарамі глабальнага саюза IndustriALL Вальтэрам Санчэсам і Міжнароднай канфедэрацыі прафсаюзаў (МКП) Шаран Бароў і 8 жніўня накіраваны ў Адміністрацыю прэзідэнта Беларусі. Копіі адпраўлены генпракурору Аляксандру Канюку і міністру замежных спраў Уладзіміру Макею. Тэкст ліста публікуе сайт Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў.

У лісце на імя Лукашэнкі лідары міжнародных прафцэнтраў выказваюць глыбокую занепакоенасць і абурэнне ў сувязі з нядаўнімі вобыскамі ў офісах прафсаюза РЭП і Беларускага незалежнага прафсаюза (БНП) гарнякоў, хімікаў, нафтаперапрацоўшчыкаў, энергетыкаў, транспартнікаў і будаўнікоў і іншых работнікаў. «*Мы таксама абураны праўдзеннем вобыскаў у кватэрах, затрыманнем і допытамі лідараў і супрацоўнікаў апарату гэтых прафсаюзаў, адзін з якіх, Ігар Комлік, да гэтага часу застаецца пад вартай*», – адзначаецца ў лісце.

У аўтараў звароту «*ёсць сур`ёзныя падставы меркаваць, што ўсе гэтыя дзеянні скіраваны на падрыў дзейнасці незалежнага прафсаюзнага руху ў Беларусі ў адплату за актыўную грамадзянскую пазіцыю прафсаюзных лідараў і дзейнасць незалежных прафсаюзаў па абароне сацыяльна-эканамічных інтарэсаў працоўных Рэспублікі Беларусь*».

IndustriALL і МКП лічаць, што гэтыя дзеянні ўлад з`яўляюцца ўмяшаннем ва ўнутраныя справы прафсаюзаў, што груба парушае канвенцыю МАП №87 «Аб свабодзе аб'яднанняў». Яны патрабуюць прыняцця тэрміновых мер па забеспячэнні нармальных умоў для дзейнасці прафсаюзаў у адпаведнасці з міжнароднымі абавязацельствамі Беларусі.

«*МКП і IndustriALL пакідаюць за сабой права праінфармаваць МАП, ЕС і іншыя кампетэнтныя міжнародныя інстытуты аб парушэннях, якія адбываюцца*», – гаворыцца ў лісце.

Раней МКП і IndustriALL выступілі з заявамі, у якіх асудзілі тое, што адбываецца вакол незалежных прафсаюзаў Беларусі.

Фядыніч і Комлік падазраюцца ў няўплаце падаткаў у асабліва буйным памеры, у дачыненні да іх распачата крымінальная справа. Абодва прафсаюзныя кіраўнікі былі затрыманы 2 жніўня і дапытаны ў дэпартаменце фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю. Пасля допыту Фядыніча адпусцілі, Комлік быў затрыманы і цяпер знаходзіцца ў СІЗА №1 на вуліцы Валадарскага. Фядыніч расказаў журналістам, што яму назвалі памер нявыплачаных падаткаў – 22 тысяч дэнамінаваных рублёў з сумы, атрыманай у 2011 годзе.

Беларускія праваабарончыя арганізацыі выступілі з сумеснай заявай, у якой заклікалі ўлады спыніць крымінальны пераслед Фядыніча і Комліка. Справу ў дачыненні да кіраўніцтва РЭП праваабаронцы параўналі са справай кіраўніка закрытага ўладамі праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага, якая была распачата ў 2011 годзе.

Праваабарончыя арганізацыі таксама заявілі, што ў сувязі з утрыманнем Комліка ў ізаляцыі разглядаюць яго як палітвязня і патрабуюць неадкладнага вызвалення.

**Аляксей АЛЯКСАНДРАЎ, БелаПАН.**

ТЫМ ЧАСАМ...

Як стала вядома праваабаронцам, учора галоўнаму бухгалтару прафсаюза РЭП Ігару Комліку прад'явілі абвінавачанні па ч.2 арт.243 Крымінальнага кодэкса – «Ухіленне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры».

Сваёй віны Ігар Комлік не прызнае, ніякіх паказанняў не дае. Аднак меру стрымання пакінулі тую ж: абвінавачаны застаецца пад вартай.

ЗДАРЭННЕ



## На праспекце Незалежнасці перакуліўся трактар

Аварыя адбылася ўдзень 10 жніўня на скрыжаванні праспекта Незалежнасці з вуліцай Каліноўскага ў Мінску, піша Tut.by.

На месца здарэння прыбылі супрацоўнікі ДАІ, медыкі і ратавальнікі. Паводле папярэдняй інфармацыі, трактарыст не пацярпеў. Прычыны і абставіны аварыі высвятляюцца.

БЛІЦ

*У мінулым нумары "Народнай Волі" былі надрукаваны адказы шэрагу кіраўнікоў адукацыйных устаноў і ведамстваў розных узроўняў на пытанне* ***"Вы агітуеце бацькоў за тое, каб яны аддавалі дзяцей у класы з беларускамоўным навучаннем?".*** *Вынікі, прама скажам, сумныя.*

*З боку ўладных структур не адчуваецца належнай зацікаўленасці ў тым, каб юнае пакаленне ў першую чаргу авалодвала родным словам.*

*Сёння "Народная Воля" вырашыла прыцягнуць увагу да гэтай надзвычай вострай праблемы дэмакратычныя колы. Лідарам апазіцыі, прадстаўнікам грамадскіх аб'яднанняў і рухаў мы задалі пытанне, як кажуць, у лоб:*

## А вы, дэмакраты, агітуеце бацькоў за тое, каб яны аддавалі дзяцей у класы з беларускамоўным навучаннем?

### Юрась ГУБАРЭВІЧ, старшыня руху "За свабоду":



– Што тычыцца нашай арганізацыі, то мы стараемся падтрымліваць розныя ініцыятывы ў рэгіёнах па стварэнні беларускамоўных класаў, груп у дзіцячых садках.

**– Канкрэтныя факты?**

– Дапамагалі бацькам з Магілёва, і ў мінулым годзе там з'явіўся беларускамоўны клас у 34-й школе. У Гродне таксама дзейнічалі заадно з бацькамі, якія намагаліся аддаць сваіх дзяцей у беларускамоўны клас.

**– Да 1 верасня засталіся тры тыдні. А як зараз вы агітуеце бацькоў за тое, каб яны аддавалі дзяцей у класы з беларускамоўным навучаннем? Адзін-два прыклады?**

– ...

### Таццяна КАРАТКЕВІЧ, лідар грамадскага аб'яднання "Гавары праўду!":

– Не скажу, што агітацыя бацькоў за беларускамоўнае навучанне – галоўны



накірунак нашай працы, але адмысловыя высілкі, каб дасягнуць у краіне такога стану, калі беларуская мова стане папулярнай, калі хаця б двухмоўе будзе сапраўднае і родная мова будзе выкарыстоўвацца не менш, чым руская, намі прадпрымаюцца.

Да мяне звярнуўся лідар ТБМ Алег Трусаў з просьбай падтрымаць ініцыятыву таварыства аб стварэнні ў Кастрычніцкім раёне Мінска (тут я балатавалася ў дэпутаты) беларускамоўнай школы, і я з задавальннем буду гэтым займацца. Планую ўжо ў жніўні сустрэцца з кіраўніком Кастрычніцкага раёна, начальнікам аддзела адукацыі... Бо пакуль у нашым раёне ёсць беларускамоўныя класы толькі ў адной, 89-й, школе.

### Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі:



– Што тычыцца партыі, то адмысловых праграм, праектаў па прасоўванні роднай мовы ў адукацыю няма. Але многія нашы сябры, як Зінаіда Бандарэнка і іншыя, сваім прыкладам, сваім стаўленнем да мовы робяць вялікую справу.

### Аляксей ЯНУКЕВІЧ, старшыня Партыі БНФ:

– Перадусім хачу сказаць, што нашы актывісты, многія сябры партыі самі аддаюць сваіх дзяцей у беларускамоўныя школы альбо класы. Там, дзе такіх класаў няма, патрабуюць, каб яны ствараліся. І самы яскравы выпадак – гэта Ялінка Салаўёва з Магілёва, дачка аднаго з лідараў нашай магілёўскай арганізацыі. Дзякуючы цвёрдай пазіцыі бацькоў, Ялінка дагэтуль навучаецца па-беларуску, яна ўжо перайшла ў 8-ы клас.

**– Але ж яна адна... Ці намагаліся вашы актывісты нешта зрабіць, каб іншыя бацькі прытрымліваліся гэтага прыкладу?**

– І ўлеткі распаўсюджвалі, і на сходах выступалі... Але, на жаль, пераканаць складана,



тым больш калі няма такой падтрымкі ў грамадстве. Напрыклад, у Баранавічах дзякуючы супольнай з Таварыствам беларускай мовы і Таварыствам беларускай школы ініцыятыве, мы сабралі подпісы, каб там адкрыўся першы беларускамоўны клас. На жаль, кампанія не была паспяховай.

### Віталь РЫМАШЭЎСКІ, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя»:

– У нас ёсць маладзёжная плыня, якая штогод праводзіць акцыі ў падтрымку беларускамоўнай адукацыі. Апроч таго, у нас ёсць шэраг прапаноў аб дасягненні рэальнага моўнага раўнапраўя ў адукацыі. Напрыклад, мы просім, нават патрабуем ад мясцовых чыноўнікаў увесці ў практыку агітацыю за беларускамоўнае навучанне сярод бацькоў перад тым, як яны пішуць заяву аб паступленні дзіцяці ў школу альбо ў дзіцячы садок. У бацькоў мусіць быць права выбару, на якой мове павінна вучыцца іх дзіця. Сёння такой альтэрнатывы няма!



Не бацькі павінны бегаць з паперкамі і намагацца адкрыцця беларускамоўнага класа, а школа, аддзел адукацыі мусяць самі прапанаваць бацькам такія класы.

### Сяргей ПАПКОЎ, намеснік старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ:

– Я асабіста гэта раблю: падрыхтаваў матэрыял і выдаў брашуру "Глядзі ў будучыню" для маладых бацькоў, дзе тлумачу, чаму трэба, каб у хаце гучала беларуская мова. Раздаў больш за 2 тысячы асобнікаў, на сайце нашай партыі змясціў гэты матэрыял.

**– Брашуры раздалі – і які вынік? Удалося сагітаваць каго-небудзь?**

– Не адсочваў. Я раблю справу, і, канешне, я абураны пазіцыяй Міністэрства адукацыі, чыноўнікаў, якія ўвесь час кажуць пра тое, што бацькі не хочуць вучыць



дзяцей па-беларуску. А што яны для гэтага зрабілі? Міністэрства адукацыі парушае абавязкі, якія ўзяла наша дзяржава перад сусветнай супольнасцю. У 2006 годзе Беларусь далучылася да канвенцыі па захаванні культурнай разнастайнасці. Там канкрэтна сказана, што мова з'яўляецца асноўнай культурнай каштоўнасцю народа. Калі мы далучыліся да канвенцыі, то, значыць, узялі на сябе абавязацельства захоўваць беларускую мову, развіваць яе. Рускую мову ёсць каму захоўваць.

Таму ўсе гэтыя спасылкі, што бацькі не хочуць, – гэта прафанацыя. Трэба, каб дзяржаўныя органы захацелі. Сёння трэба цэлы патранажны інстытут ствараць для таго, каб тлумачыць бацькам, грамадству, чаму мы мусім вяртацца да роднай мовы.

### Тамара МАЦКЕВІЧ, намеснік старшыні ГА "Таварыства беларускай школы":

– Агітацыя і прапаганда – не наймацнейшыя бакі Таварыства беларускай школы. Мы хутчэй аб'ядноўваем, дапамагаем і самі ствараем сучасную беларускамоўную адукацыйную прастору.



**– А калі гаварыць больш канкрэтна: якую колькасць бацькоў вы сёлета сагітавалі, каб 1 верасня яны павялі сваіх дзяцей у беларускамоўныя класы?**

– ...

**Апытвала Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

### Ад рэдакцыі

Заўважылі, шчыра адказаў на наша канкрэтнае пытанне, бадай, толькі Анатоль Лябедзька – у партыі няма "*адмысловых праграм, праектаў па прасоўванні роднай мовы ў адукацыю*". А значыць, з боку партыйцаў цяпер, напярэдадні навучальнага года, не вядзецца сярод бацькоў ніякай агітацыйнай работы, каб яны аддавалі дзяцей у класы з беларускамоўным навучаннем.

Астатнія інтэрв'юіруемыя ад канкрэтнага адказу на канкрэтнае пытанне ўхіліліся. Іх развагі – альбо агульнага характару, альбо каб нейкім чынам прыдаць свайму іміджу станоўчую характарыстыку. Што значыць "*планую ўжо ў жніўні сустрэцца з кіраўніком Кастрычніцкага раёна, начальнікам аддзела адукацыі...*"? Калі рэч ідзе "*аб стварэнні беларускамоўнай школы*", то такое пытанне не вырашаецца за некалькі тыдняў да навучальнага года. З другога боку, чаму ў гэтым раёне толькі адна школа з беларускамоўнымі класамі? Якая іх напаўняльнасць? Якая канкрэтная работа вядзецца ў гэтыя дні з бацькамі, каб яны аддавалі дзяцей менавіта ў такія класы?

Актывіст Партыі БНФ праявіў цвёрдую пазіцыю і дабіўся, каб яго дачка Ялінка навучалася па-беларуску. А чаму партыя не навалілася ўсёй грамадой і не знайшла ў Магілёве, у якім пражываюць некалькі сотняў тысяч чалавек, яшчэ 10–15 дзяўчынак і хлопчыкаў, якія сталі б аднакласнікамі Ялінкі?

Так, па вялікім рахунку сённяшнія ўлады не праяўляюць асаблівага клопату наконт таго, каб у школах, гімназіях, ліцэях як належыць загучала родная мова. Але ж, бачым, і нашы слаўныя дэмакраты не могуць пахваліцца сваёй работай у гэтым накірунку. Хто з іх, адказваючы на канкрэтнае пытанне, сказаў: "Мы сустрэліся з бацькамі ўсіх будучых першакласнікаў і трэцяя (чацвёртая, пятая...) частка іх пагадзілася аддаць сваіх дзяцей у класы з беларускамоўным навучаннем"? Ніхто. А плён дае толькі штодзённая карпатлівая работа. Як з боку ўлад, так і з боку грамадства.

